


# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 6 (640)
Чэрвень 2019 г.





WARD POUND RIDGE
6 RESERVATION RD, POUND RIDGE, NY 10576.



**Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня"** разам з камандаю **"Беларусы ЗША. Разам лягчэй"** сардэчна запрашае ўсіх зацікаўленых адзначыць разам старадаўнюю рамантычную традыцыю Купальля ў парку ***Ward Pound Ridge*** у штаце Нью-Ёрк з 22 па 23 чэрвеня. Вас чакае цікавая і актыўная праграма святкаваньня працягласьцю ў два дні.

Праграма ўключае спартыўны адпачынак, барбэкю, ёгу, сьпевы, карагоды, акустычны канцэрт, пошукі папараць-кветкі, скокі праз вогнішча і купаньне (бярыце з сабою купальнікі і ручнікі).

Кошт імпрэзы **$40** дарослым, **$15** дзецям (дзецям да 10 год - бясплатна), дранікі, бліны і крупнік, а таксама арэнда беларускага строю ўключаныя ў кошт. (Астатнюю ежу і намёты прывозьце свае.) Аплата на месцы наяўнымі грашыма.

Плата за ўезд у парк да 5-й гадзіны вечара **$8** з аўта, незалежна ад колькасьці пасажыраў.

Абавязковая анлайн рэгістрацыя - ***http://bit.ly/kupalle_2019*** або дасылайце СМС на нумар ***732-604-1171*** (пазначце вашае імя і прозьвішча, час заезду і колькасьць людзей у вашым намёце).

*Даезд цягнікам: ад станцыі **Grand Central (NYC)** да прапынку **Katonah** (прыкладна гадзіна часу), далей 10 хвілін язды на аўта ад станцыі, можна ўзяць таксоўку да **Ward Pund Ridge**, але варта дамовіцца, каб вас падвезьлі.*

Усе абнаўленьні і дэталі аб праграме сьвята будуць разьмешчаныя ў фэйсбук-групе "Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне Пагоня", калі вы ня маеце фэйсбук, па інфармацыю тэлефануйце **Ганьне** на нумар ***732-604-1171***.

# Травеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 11 траўня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы травеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў пра нядаўнія і пра бягучыя падзеі ды імпрэзы “Пагоні”, пра пляны на бліжэйшыя месяцы. Ён зрабіў аб’яву пра наступны сход “Пагоні” й пра Купальле, што пройдзе 22-23 чэрвеня.

Затым слова ўзяў сп. Марат Клакоцкі, рэдактар альманаху “Беларус” і рэдактар “Вестак і Паведамленьняў” – інфармацыйнага бюлетэня Згуртаваньня “Пагоня”. Ён прынёс на сход некалькі асобнікаў альманаху “Беларус”за мінулы год. Сп. Клакоцкі распавёў пра альманах, ягоныя функцыі й прынцыпы адбору матэрыялаў. Ён паведаміў, што цяпер ідзе збор тэкстаў для выпуску за бягучы год. Выступоўца спыніўся на асаблівасьцях выданьня і распаўсюду “Беларуса” і заклікаў прысутных набываць выданьне, падтрымліваючы гэтым выдавецкую справу і творчыя сілы беларускай грамады ў Амэрыцы. Таксама сп. Клакоцкі запрасіў прысутных, што маюць ўжо нейкія задумы адносна напісаньня мастацкіх твораў, а можа і гатовыя ўжо тэксты, прапаноўваць свае творы для публікацыі ў альманаху “Беларус”.

Потым сп. Віталь Зайка распавёў пра неабходнасьць, на ягоную думку, даваць на кожным сходзе болей адукацыйнай інфармацыі пра беларускую культуру, гісторыю, этнаграфію, мову ў Беларусі. У рамках такога кірунку арганізацыі гутарак і лекцыяў сп. Віталь Зайка зрабіў прэзэнтацыю “Беларусы і гэбраі: шэсьць стагодзьдзяў побач”, што, нажаль, мусіла быць паказаная проста на экране лэптоп кампутара дзеля праблемаў з праектарам. Тэмаю прэзэнтацыі была гісторыя гэбраяў Беларусі ад старажытных часоў да Першай сусьветнай вайны і рэвалюцыі. Прамоўца адзначыў, што самыя першыя гэбраі зьявіліся, найверагодней, у часы разьвіцьця княстваў на ўсходнеславянскіх землях, прыкладна ў пэрыяд хросту ўсходніх славянаў, у тым ліку продкаў сучасных беларусаў у хрысьціянства. Але першыя задакумэнтаваныя зьвесткі пра гэбраяў на беларускіх землях датуюцца 14-м стагодзьдзем, часамі вялікага князя Вітаўта, які надаў прывілеі гэбраям Берасьця, Горадні й Трокаў на свабоднае пражываньне, валоданьне маёмасьцю і асабістымі правамі, што пазьней былі замацаваныя ў Літоўскіх Статутах.

Затым прамоўца спыніўся на культурнай і рэлігійнай аўтаноміі гэбраяў ў часы Вялікага Княства Літоўскага, на самакіраваньні і кагалах як асноўных адміністрацыйных адзінках самакіраваньня. Таксама была ўзгаданая значная роля, якую гэбраі адыгравалі ў эканамічным і сацыяльным жыцьці краю. Далей былі закранутыя пытаньні культурных і моўных асаблівасьцяў беларускіх гэбраяў, што сфармаваліся яшчэ за часы Вялікага Княства Літоўскага і ў выніку далі адмысловую этнічную падгрупу ашкеназыйскіх (эўрапэйскіх) гэбраяў званую “літвакі”, са сваёй традыцыяй рэлігійных абрадаў, асобнай гаворкай мовы ідыш, з разнастайнымі этнаграфічнымі асаблівасьцямі і іншымі рысамі, якія чакаюць яшчэ на сур’ёзных дасьледчыкаў. Прамоўца ўзгадаў узьнікненьне на беларускіх землях рацыянальнай плыні хасыдызму, званага Хабад, што цяпер зьяўляецца адною з найбольш лічэбных і ўплывовых канфэсіяў юдаізму.

Затым сп. Віталь Зайка спыніўся на пэрыядзе, калі пасьля падзелаў Польска-Літоўскай садружнасьці – Рэчы Паспалітай – беларускія землі апынуліся ў складзе Расейскай імпэрыі. Расейцы, што дзеля рэлігійнай нецярпімасьці яшчэ ў папярэдні час да падзелаў забараняллі гэбраям асядаць на землях уласна Расеі, сталі перад пытаньнем, як трактаваць новых падданых юдэйскага закону. У выніку пасьля разглядаў і разбораў было пастаноўлена ўтварыць на землях былой Рэчы Паспалітай абшар для гэбраяў, за межы якога, ва ўласна расейскія землі, быў забаронены доступ усім гэбраям, акрамя пэўных катэгорыяў гандляроў і асобаў з вышэйшай адукацыяй. Гэбраі, такім чынам, афіцыйна былі вызначаныя як расейскія падданыя другога гатунку. Прамоўца закрануў далей гістарычнае разьвіцьцё ў 19-м стагодзьдзі, уціск часоў цара Мікалая І, калі тысячы непаўналетніх, а часам і зусім малых, гэбрайскіх дзяцей забіралі ў кантаністы на доўгую вайсковую службу. Затым былі рэформы і гады рэакцыі, адбывалася прасьвета і эмансыпацыя гэбраяў. На прыканцы 19-га стагодзьдзя гэбраі складалі досыць вялікую эканамічную і інтэлектуальную сілу, пазбаўленую роўнасьці з астатнімі падданымі імпэрыі. Гэта неўзабаве стала імпульсам да палітычнай дзейнасьці, стварэньня сіяніцкага і сацыялістычнага рухаў сярод гэбраяў, утварэньня палітычных партыяў. Імклівай вэстэрнізацыі Расеі ды эканамічнаму росту паклала крэс Першая сусьветная вайна, хуткая неўзабаве рэвалюцыя і бальшавіцкі перакул у кастрычніку 1917 году. Гэбраі ў выніку Лютаўскай рэвалюцыі атрымалі роўныя правы з астатнімі грамадзянамі, а надыходзячая новая эпоха прынесла таксама і трагічныя зьмены. Але гэта ўжо тэма для іншай прэзэнтацыі.

Затым прагучэлі аб’явы і паведамленьні, а прысутныя мелі нагоду калегавацца пры сьціплых пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***

# Паседжаньне на канфэрэнцыі па кнізе Зіны Гімпелевіч

У Гарыман-Інстытуце (Школа міжнародных адносінаў пры Калюмбійскім унівэрсытэце) 4-га траўня ў рамках міжнароднай канфэрэнцыі Асацыяцыі па вывучэньні нацыянальнасьцяў адбылося паседжаньне, прысьвечанае абмеркаваньню нядаўна выйшаўшай у сьвет кнігі канадыйскай дасьледчыцы, прафэсара ўнівэрсытэту ў Ўотарлу др. Зіны Гімпелевіч. Кніга “Выява гэбраяў у сучаснай беларускай літаратуры” была апублікаваная ў канцы 2018 году і прыцягнула ўвагу шматлікіх навукоўцаў. Яна прапануе аналіз рэпрэзэнтацыяў гэбраяў у творчасьці больш за 40 беларускіх аўтараў. Таленавітыя пісьменьнікі Беларусі, што жылі ў розныя часы, перакануаўча сьведчаць пра ўзаемную павагу і плённае сумеснае існаваньне беларусаў і гэбраяў, культурны ўзаемны ўплыў, перакрыжаваньні беларускай і гэбрайскай гісторыі. Абодвыя народы былі пад аднолькавым уплывам зьнешніх сілаў, і ў падобны спосаб доўгі час былі пазбаўленыя права на вырашэньне свайго ўласнага лёсу. На абодвыя народы жудасна паўплывалі падзеі Другой сусьветнай вайны, падчас якой загінула каля чвэрці насельніцтва краю, а гэбрайскае насельніцтва скарацілася ў 10 разоў. Пасьля вайны адбывалася паскораная русыфікацыя і асыміляцыя ў савецкую расейскую культуру. Але пад канец стагодзьдзя яны выйшлі з нацыянальнага летаргу і зацікавліся, між іншага, сваімі суседзямі, гісторыя супольнага жыцьця зь якімі налічвае сотні гадоў.

Напачатку паседжаньня, якое суправаджалася паказам слайдаў праз праектар, выступіла аўтарка др. Зіна Гімпелевіч, якая коратка распавяла пра мэты

***заканчэньне на бачыне 3***

# “Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы” Зьмітра Саўкі

Да трэціх угодкаў сьмерці аўтара пабачыла сьвет кніга, поўная назва якой “Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы: Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949—1999). Падзеі. Дакумэнты. Успаміны. Пэрсаналіі”. Зьміцер Саўка пачаў пісаць яе пры канцы 1990-х, сабраў багата матэрыялаў, папрацаваў з архівамі, сустракаўся зь сябрамі БАЗА, але, з розных прычынаў, так і не давёў выданьне да друку. Сёньня гэты больш як шасьцісотстаронкавы фаліянт – гэта ня толькі гісторыя адной з найстарэйшых дзеючых беларускіх арганізацыяў на Захадзе, ня толькі даніна памяці аўтара беларусам, “што не дажылі да Незалежнасьці”, але й знак нашай, ягоных сябраў, павагі да Зьмітра.

Зьміцер Саўка, выконваючы замову БІНіМу й БАЗА, рабіў кнігу да 50-х угодкаў арганізацыі. Аднак, выдаючы яе праз 20 гадоў пасьля гэтай даты, немагчыма было не згадаць тое, што адбывалася ў Задзіночаньні цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў. Таму ў прадмове Лявона Юрэвіча, акрамя ўспамінаў пра аўтара, зьмешчаныя таксама згадкі-аповеды ўдзельнікаў, цытаты з публікацыяў пра падзеі ў БАЗА, якія мелі месца пасьля фактычнага заканчэньня кнігі.

Праца Зьмітра Саўкі распавядае пра “Беларускую цывілізацыю ў Амэрыцы” вельмі разнабакова. За храналягічным выкладаньнем бурлівай гісторыі БАЗА ідуць разьдзелы прысьвечаныя асобным падзеям і кірункам дзейнасьці арганізацыі. Спэцыяльна пададзеная інфармацыя пра ўсе кангрэсы Задзіночаньня, пра актыўнасьць у галіне палітычнай рэпрэзэнтацыі беларусаў “на Капіталійскім пагорку”. У кнізе прадстаўленая й разнастайная дзейнасьць усіх аддзелаў БАЗА (нават тых, што існавалі вельмі непрацяглы час), а таксама моладзёвых, вайсковых, жаночых і іншых арганізацый, зьвязаных з Задзіночаньнем. Асобна распавядаецца пра мэдыі, школы, найбольш значныя акцыі й імпрэзы (як Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, Беларускія фэстывалі ды інш.). Надзвычай цікавы разьдзел мае назву “Гадавы каляндар БАЗАўца”. Тут паказана, якія імпрэзы ладзілі амэрыканскія беларусы штомесяц ад студзеня да сьнежня.




Падзейны аповед падмацоўваюць зьмешчаныя ў асобнай частцы кнігі дакумэнты (Статуты, звароты і інш.). Уся згаданая інфармацыя, сабраная разам, сапраўды стварае ўражаньне пра існаваньне своеасаблівай “беларускай цывілізацыі” за акіянам, абсягі якой мала бачныя з мэтраполіі.

Асобную й асаблівую цікавасьць выклікае частка кнігі, у якой пададзеныя запісаныя Зьмітром Саўкам успаміны БАЗАўцаў. Большасьць аповедаў не датычаць ні дзейнасьці Задзіночаньня, ні наогул жыцьця ў ЗША. Калі ўзяць агулам, гэта своеасаблівая перадгісторыя тае “беларускае цывілізацыі”, жывыя адказы на пытаньне хто й чаму ў сярэдзіне XX стагодзьдзя вымушаны быў займацца яе стварэньнем. Сярод тых, чые ўспаміны зьмешчаныя ў кнізе: Янка Азарка, Вера й Францішак Бартулі, Міхась Белямук, Кастусь Калоша, Юрка Каляда, Яніна Каханоўская, Вітаўт Кіпель, Янка Раковіч, Васіль і Галіна, Нюра й Уладзімер Русакі, Вячка Станкевіч, Міхась Страпко, Антон Шукелойць, Васіль Шчэцька. Амаль усе апавядальнікі, як і аўтар кнігі, ужо не жывуць, і публікацыя запісаных 20 гадоў таму ўспамінаў – апошняя магчымасьць для нас пачуць і зразумець іх, болей яны нічога ўжо ня скажуць.

Частка кнігі з назваю “Пэрсаналіі” найбольш рэдагавалася ў часе падрыхтоўкі да друку – біяграфічныя зьвесткі каля дзьвюх сотняў БАЗАўцаў трэба было актуалізаваць з улікам апошніх дзесяцігодзьдзяў, каб яны былі магчымыя для выкарыстаньня сёньня.

У выніку і аўтарскай, і рэдактарска-выдавецкай працы сьвет пабачыла сапраўды інфармацыйна насычаная, добра ілюстраваная кніга, своеасаблівы пасьмяротны помнік і аўтару, і ягоным героям.

***Н. Г.***

## Паседжаньне на канфэрэнцыі

***заканчэньне з бачыны 2***

сваёй новай, ужо сёмай па ліку, кнігі. Раней аўтарка выдала, між іншага, першую творчую біяграфію Васіля Быкава па-ангельску. Др. Гімпелевіч падкрэсьліла, суіснаваньне беларусаў і гэбраяў – унікальная і маладасьледваная тэма, і выказала надзею, што да яе прыйдуць новыя пакаленьні дасьледчыкаў.

У абмеркаваньні першым выступіў супрацоўнік Інстытуту Гэбрайскіх досьледаў IBO сп. Віталь Зайка. Ён спыніўся на ўводзінах і гістарычным нарысе ў кнізе, а таксама на першых двух разьдзелах, што пакрываюць раньні пэрыяд беларускай літаратуры, творчасьць Янкі Купалы і паасобныя творы Якуба Коласа, Натальлі Арсеньневай і Максіма Танка.

З грунтоўным аналізам плыняў у беларускай літаратуры, што адбіліся на стварэньні выявы гэбрая, у асноўным прыцягальнай і пазытыўнай, выступіла прафэсарка Варбурскага ўнівэрсытэту і выканаўчы дырэктар Цэнтру Беларускіх Досьледаў др. Марыя Паўля Сурвілла. У дыскусіі з дакладам далей выступіла сп-чня Вераніка Лапуцька, што студыюе на дактарат пры Інстытуце філязофіі й сацыялёгіі Польскай Акадэміі Навукаў у Варшаве. З аналізам заключнай часткі кнігі і з агульным падсумаваньнем выступіў прафэсар Куынс-каледжу ў Нью-Ёрку др. Томас Бэрд. Ён адзначыў высокі навуковы ўзровень новай працы і пажадаў плёну ў наступных досьледах.

Аўтарка кнігі адказала затым на пытаньні прысутных. Паседжаньне вяла



прафэсар Нью-Ёрскага гарадзкога каледжу тэхналёгіі (City University) др. Ала Орса-Рамана, што займаецца актыўнай культурніцкай працай, зьвязанай зь Беларусьсю.

***Віталь ЗАЙКА***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Доўгі хобат Хабаду

Пра выбары ва Ўкраіне не напісаў у Беларусі толькі ляніва. Захапляюцца нашай паўднёвай суседкай амаль усе. Толькі захапленьне гэтае плятанічнае. Ва Ўкраіне Беларусь – гэта суседка, якая цікавіць украінцаў, напэўна, аднолькава, як Малдова, а можа і менш.

Напісалі і сказалі шмат, але пра самае цікавае, вядома, сказаць ніхто не дадумаўся. Шмат гаварылася пра сувязь Зяленскага, новага прэзыдэнта, зь мільярдэрам Каламыйскім. Дык вось, апрача фармаваньня палітпавесткі ва Ўкраіне цягам ужо многіх гадоў, Каламыйскі яшчэ адзначыўся тым, што збудаваў самы вялікі цэнтар Хабад Любавіч у сьвеце. Хабад Любавіч – гэта радыкальная сэкта, якую не прызнаюць, між іншым, і вернікі юдаізму. Гісторыя стварэньня сэкты, асаджаная менавіта ў беларускім кантэксьце, бо заснаваная была ў XVII ст. у мястэчку Любавічы на Смаленшчыне. Любавічы – гэта колішняе мястэчка гістарычнай Аршаншчыны, складовая частка беларускай этнічнай тэрыторыі. Заснаваная сэкта была народжаным у Лёзне равінам Шнэур-Залман бар-Барух зь Ляд, сымбалічна ў год першага падзелу Рэчы Паспалітай, калі Любавічы адыйшлі ў склад Расейскай імпэрыі. Асноваю сэкты Хабад Любавіч зьяўляецца кабала, вера ў рэінкарнацыю, сілу магіі, а адным з галоўных пераканаценьняў ёсьць тое, што гоі паходзяць ад дэманаў. Збудаваны Каламыйскім цэнтар “Мэнора” ў горадзе Дняпры (былы Днепрапятроўск) лічыцца цяпер адным з самых вялікіх асяродкаў Хабад Любавіч у сьвеце. Але калёнка нашая пра Амэрыку, таму пяройдзем да Амэрыкі.

Хабад Любавіч была адзінай рэлігійнай арганізацыяй, якую Ёсіф Сталін цалкам выгнаў з СССР. У той час клясычны юдаізм застаўся ў СССР незакранутым. З гэтага часу асноўны цэнтар Хабад Любавіч знаходзіцца ў Нью-Ёрку. Ну і самы цікавы факт. На набажэнствы Хабад Любавіч рэгулярна наведваецца дачка прэзыдэнта ЗША Іванка Трамп, якую прывёў у сэкту яе муж Джарэд Кушнэр. Пра прыналежнасьць да супольнасьці Хабад, фінансаваньне і бясконцыя сувязі зяця Трампа можна пачытаць і паглядзець, на-



***Грамадзкі цэнтар Хабад Любавіч “Мэнора” ў горадзе Дняпро.***

браўшы ў пошуку *Jared Kushner+Habad*. Так будзе цікавей і вам, і мне менш пісаць давядзецца пра наш невялічкі амэрыканска-вялікалітоўскі сьвет.

**Віталь ВОРАНАЎ**

---

### Уплаты ў Згуртаваньне Складкі й ахвяраваньні:

П. Бялецкі ..............60
А. Гаршкоў ..............60
Ю. Немагуцін ..............60

**Усім шчыры дзякуй!**

Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”, калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні”. *(стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

---

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **8-га чэрвеня 2019 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

---

На штомесячных сходах арганізацыі можна таксама аплаціць сяброўскія складкі і падпіску на інфармацыйны бюлетэнь.

---

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

П. Бялецкі ..............30
А. Гаршкоў ..............30
З. Левіт ..............30
Ю. Немагуцін ..............30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпісчыкі “Вестак і Паведамленьняў” **В. Зайцаў, Я. Новікава, Я. Сідар, С. Сіткевіч, Д. Турсумбаеў,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце **e-krama.com***